*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 45 (632) 3 СНЕЖНЯ 2003 г.

## Адкрыты помнік Міколу Ермаловічу





28 лістапада ў Маладэчне прайшло ўрачыстае адкрыццё памятнага знака вялікаму беларускаму гісторыку, ганароваму грамадзяніну горада Міколу Ермаловічу.

Урачыстасць ладзілася гарадскімі ўладамі пры шырокім удзеле грамадскасці.

Пры адкрыцці помніка слова мелі прадстаўнікі ўладаў, інтэлігенцыі, сябры Міколы Ермаловіча: Наталля Шмакава, намеснік старшыні гарвыканкаму, Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, Генрых Далідовіч, пісьменнік, намеснік рэдактара "Краязнаўчай газеты", прафесар Аляксей Саламонаў, Лявон Цімохін, Яўген Гучок, сябар рады ТБМ Пётр Краўчанка.

Падчас адкрыцця помніка было праведзена ўганараванне медалём Міколы Ермаловіча. Медаль атрымалі Святаслаў Палівода, Ганрых Далідовіч, брат Міколы Ермаловіча Леанід. Медаль быў перададзены і ў музей Міколы Ермаловіча пры Таварыстве інвалідаў па зроку, сябрам якога быў Мікола Ермаловіч, і якое выдзеліла аўтобус для дастаўкі менскай дэлегацыі ў Маладэчна. Медаль "Пагоня" атрымаў рэдактар часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі.

У сваю чаргу падзякамі Маладэчанскага гарвыканкаму былі ўганараваныя кіраўнік праекту А. Белы і скульптар-медальер У. Мелехаў.

Адкрыццё памятнага знака М. Ермаловічу вылілася ў сапраўднае свята горада Маладэчна, у беларускае свята.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымках** падч с адкрыцця помніка.

## РАДЗІМУ ГАРЭЦКАМУ - 75



***Вельмішаноўны Радзім Гаўрылавіч!***

*ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" мае за гонар павіншаваць Вас, вучонага з сусветным імем, віца-прэзідэнта Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, выдатнага нашчадка слыннага роду Гарэцкіх, — з юбілеем, 75-годдзем ад Дня народзінаў.*

*Мы ведаем Вас як вядомага грамадскага дзеяча, таленавітага публіцыста і пісьменніка, шчырага беларуса і ганарымся, што з першых дзён утварэння Таварыства Вы — найактыўнейшы сябра Рады нашага аб'яднання. У Вашых публічных прамовах праблема беларускай мовы ў нашай краіне займае асноўнае месца. Паказальна для іншых, што Вы заўсёды і ўсюды карыстаецеся роднай мовай, бездакорна валодаеце словам, нягледзячы на тое, што, фактычна, на працягу амаль 40 гадоў жылі ў рускамоўным асяроддзі, вучыліся ў расійскай школе.*

*Вы годна вытрымалі ўсе выпрабаванні лёсу і засталіся адным з найлепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якая ідзе ў авангардзе барацьбітоў за перамогу нацыянальнай беларускай ідэі. Ваш жыццёвы аптымізм, няўрымслівасць і працавітасць, бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, спалучаныя з высакародствам, — узор для пераймання маладому пакаленню беларусаў.*

*З павагай*
*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў.*

---

*"25" лістапада 2003 г. №*

**Старшыні Канстытуцыйнага Суда**
**Рэспублікі Беларусь**
**спадару Р. А. Васілевічу**

**Шаноўны спадар старшыня Канстытуцыйнага Суда,**

30 чэрвеня 1998 г. у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адбыліся парламенцкія слуханні на тэму "Праблема правоў чалавека". Па выніках слуханняў парламент прыняў рэкамендацыі, зацверджаныя пастановай № 680-П/IY ад 30.06.1998 г., сярод якіх утрымліваецца і рэкамендацыя Канстытуцыйнаму Суду Рэспублікі Беларусь унесці прапановы суб'ектам права заканадаўчай ініцыятывы аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь", якія б прадугледжвалі ўвядзенне інстытута прыватнай канстытуцыйнай скаргі.

У сувязі з гэтым просім паведаміць нам, ці звяртаўся Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь з такімі прапановамі да суб'ектаў права заканадаўчай ініцыятывы, і які атрыманы ад іх адказ. Сябры Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны маюць сумны досвед уціску сваіх моўных правоў, які робіцца магчымым з прычыны недасканаласці заканадаўства.

Паколькі на сённяшні дзень дапаўненні ў Закон "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь", якія б адкрывалі грамадзяніну прамы доступ у органы канстытуцыйнага кантролю, не ўнесеныя, просім вярнуцца да пазначанай пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і ўзнавіць работу па яе рэалізацыі.

*Дадатак: тэкст пастановы № 680-П/IY ад 30.06.1998 г.*

**З павагай**
**Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"** **Алег Трусаў.**

**Прынята на паседжанні**
**Сакратарыяту ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны"**
**"25" лістапада 2003 Пратакол № 15.**

# Ад крыўды плачу, ад болю крычу...

***Прапануем увазе чытачоў раздзелы з новай кнігі Радзіма Гарэцкага "Вечна жыве Беларусь", у якіх ён выказвае свой погляд на значэнне і стан беларускай мовы ў нашай краіне.***

## Моўная трагедыя беларускага народа

Прыгажэйшы край у цэнтры Еўропы, які дадзены беларусам ад Бога, заўсёды прывабліваў суседнія дзяржавы. Яны імкнуліся далучыць гэты край да сябе ўсякімі метадамі — і ваеннымі захопамі, і дыпламатычнымі мерапрыемствамі і інш. Адзін з галоўных — праца з тутэйшым працавітым і таленавітым насельніцтвам шляхам яго асіміляцыі і ў першую чаргу моўнай акупацыяй. Ішла дзяржаўная мэтанакіраваная палітыка разбурэння мовы карэннага насельніцтва Беларусі аж да афіцыйнай забароны мовы — спачатку ў Рэчы Паспалітай, а затым і ў царскай Расіі. Барацьба з мовай працягвалася некалькі стагоддзяў. Гэтаму працэсу садзейнічала і царква. У выніку прыпынілася развіццё беларускай цывілізацыі, а Беларусь стала выдатным донарам для іншых і асабліва суседніх культур. Дастаткова нагадаць геніяльных выхадцаў з Беларусі — польскага паэта Адама Міцкевіча і расійскага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага. Магутная русіфікацыя не зменшылася і ў савецкі час: кароткая "беларусізацыя" хутка змянілася асабліва моцнай русіфікацыяй пасля барацьбы з "нацдэмаўшчынай" у 30-я гады.

Стан беларускай мовы на Беларусі катастрафічны. Апошнія носьбіты народнае мовы — вясковыя беларускія жанчыны — адыходзяць у нябыт. Амаль увесь люд беларускі ахапіла трасянка, якая, як нядаўна правільна адзначыў Анатоль Казловіч, стала народнай мовай беларусаў. За гэты працяглы час і трасянка змянілася. Калі спачатку яна была галоўным чынам на базе беларускай мовы, у якую ўносілася ўсё больш рускіх слоў з вялікім беларускім акцэнтам, дык цяпер яна стала амаль поўнасцю рускай, перамешанай асобнымі беларускімі словамі з характэрным беларускім вымаўленнем. Калі раней яна як бы трохі і ахоўвала беларусаў ад поўнай русіфікацыі, дык цяпер стала зусім знямоглай.

Пасля таго, як Беларусь атрымала самастойнасць і быў прыняты закон аб дзяржаўнай беларускай мове, апошняя пачала шпарка пашырацца. Асабліва яна замацавалася сярод прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння (рух БНФ, літаратурныя і мастацкія суполкі і інш.). Але кароткі час нацыянальнага адраджэння і ўздыму беларускай мовы быў рэзка абарваны рэферэндумам (1995), які ўзаконіў так званае "дзвюхмоўе", а затым праз дапаўненні ў Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь (1998) зусім адкінуў беларускую мову ў другарадны стан. Беларуская мова пачала выціскацца адусюль і затрымалася галоўным чынам сярод сяброў БНФ і іншых так званых "апазіцыянераў". Таму калі хто загаворыць па-беларуску, дык часта можна пачуць насцярожанае пытанне: "Ты што — бэнээфавец ці апазіцыянер?"

Не спрыяюць беларускай мове адмоўныя адносіны да яе кіраўніка дзяржавы, які неаднойчы з пагардай падкрэсліваў мізэрнасць мовы беларускай і з пафасам — веліч рускай. У сваіх выступленнях, калі гаворыць пра апазіцыю і каб падкрэсліць яе нікчэмнасць, ён раптоўна і са здзекам пераходзіць з рускай мовы на беларускую. Гэты прыём перанялі некаторыя парламентарыі і халуйскія "тэлевізійныя салаўі". У выніку ўся "вертыкаль" — ад прэзідэнта краіны да старшыні сельсавета і калгаса — стараецца размаўляць па-руску, а ў сапраўднасці часцей за ўсё атрымліваецца тыповая трасянка. Апошняя цалкам авалодала, нават, членамі Адміністрацыі прэзідэнта, ураду, парламентарыямі і інш. Многія проста баяцца размаўляць па-беларуску, каб не падумалі, што яны "нацыяналісты" або знаходзяцца ў апазіцыі. Асабліва сумна і, нават, сорамна слухаць нашых дзяржаўных дзеячаў (у тым ліку і міністраў) гуманітарнага кірунку (Міністэрства інфармацыі, культуры, адукацыі, шэрагу універсітэтаў, акадэміі, інстытутаў і інш.), многія з якіх добра валодаюць беларускай мовай, але калі да іх звяртаецца з пытаннем карэспандэнт тэлебачання ці радыё па-беларуску, яны падкрэслена даюць адказ на рускай мове. Для чыноўніка самае галоўнае — захаваць сваё месца, не згубіць сваю ўладу, а словы аб "заботе о народе, его культуре" — звычайная дэмагогія.

У нармальнай краіне ўсе яе грамадзяне, незалежна ад таго, да якой партыі яны належаць, якога ідэалагічнага кірунку прытрымліваюцца, прыхільна ставяцца да ўладаў ці не — гавораць на мове карэннай нацыі, і апошняя квітнее і развіваецца, нягледзячы на палітычную сітуацыю. У нас жа ўсё наадварот: хто падтрымлівае сучасную ўладу, галоўным чынам размаўляе на мове магутнай суседняй дзяржавы, большасць тых, хто яе крытыкуе, — на сваёй роднай. Беларуская мова зноў, як і ў былыя гады, стала палітычным падзелам паміж адной часткай насельніцтва і другой, а гэтае становішча шкодзіць пашырэнню беларускай мовы, нармальнаму жыццю грамадства.

Афіцыйна ў Беларусі існуе дзвюхмоўе, але ў рэальным жыцці яго няма. Кіраўнікі краіны, галоўная мэта якіх — зліццё Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, не зацікаўлены ў дзвюхмоўі, і яны робяць усё магчымае, каб поўнасцю панавала руская мова, мэтанакіравана і няўхільна вядуць народ беларускі да рускага аднамоўя. Ужо можна гаварыць аб акупацыі Беларусі рускай мовай. Для сучаснай нашай дзяржавы беларуская мова не патрэбна, яна толькі перашкаджае палітыцы ўладаў, і таму яе трымаюць у якасці "фігавага лістка", каб хоць неяк прыкрыць існае варварскае разбурэнне беларушчыны. Без рускай мовы ў Беларусі пражыць немагчыма, а без беларускай нават лягчэй, бо менш шанцаў атрымаць знявагу тыпу злога вокрыка: "Говорите на нормальном языке", ці ярлык "нацыяналіста", "фашыста", "дерьмократа". Мінімізаваць беларускую мову ў садках, школах, вышэйшых навучальных установах, у сродках масавай інфармацыі, літаратуры, культуры, навуцы, сферы абслугоўвання і інш. — відавочная мэта ўладаў, якую яскрава бачна няўзброеным вокам. Асабліва гэтая палітыка праявілася ў апошні час у барацьбе з беларускамоўнай часткай Саюза пісьменнікаў, у знішчэнні з пасадаў галоўных рэдактараў мастацкіх часопісаў выдатных пісьменнікаў, аб'яднанні ў выдавецкі холдынг шэрагу часопісаў і газет пад кіраўніцтвам адыёзных антыбеларускіх фігур, закрыцці некаторых газет і г. д. Выклікае абурэнне нахабства некаторых халуйствуючых пісак, якія прапануюць забараніць друкаваць творы лепшых беларускіх пісьменнікаў, вядомых ва ўсім свеце.

Беларуская мова стала зусім незапатрабаванай дзяржавай і значнай часткай грамадскасці. Пакуль будзе такое становішча, цяжка разлічваць на адраджэнне мовы, а разам з ёй — на ўздым эканомікі, вытворчасці, культуры, навукі, на стварэнне квітнеючай багатай краіны. Такую дзяржаву могуць пабудаваць толькі сапраўдныя патрыёты сваёй Радзімы, а без роднай мовы яны не з'явяцца.

Каб беларуская мова была ў Беларусі запатрабавана (а гэта галоўная неабходнасць сучаснага і будучага развіцця народа і краіны), трэба ўсіх чыноўнікаў (ад прэзідэнта РБ да самага маленькага клерка) прывесці, як мінімум, хаця б да сапраўднага дзвюхмоўя. Напрыклад, ці можа карыстацца павагай парламентарый ці міністр, які не ведае роднай мовы свайго народа? Для яго калег з іншых краін — гэта проста нонсэнс. Чаму ў большасці краін свету іх жыхары абавязкова павінны ведаць родную мову, а людзі, якія хочуць атрымаць грамадзянства краіны, павінны здаць экзамен па мове? Без ведання беларускай і рускай моваў не можа чалавек працаваць у сферы абслугоўвання, асабліва дзяржаўнага. Хіба гэта нармальна, што не з кожнай пошты можна паслаць тэлеграму на роднай мове, калі ў большасці ўстаноў заяву ці іншы дакумент прымаюць толькі па-руску і г. д.? Любая дакументацыя (у тым ліку шыльды, назвы вуліц і г. д.) таксама павінна быць беларускамоўная ці хаця б дзвюхмоўная. Бясспрэчна, беларускамоўная адукацыя павінна пашырацца — ад садкоў і школ да вышэйшых навучальных устаноў. Усё гэта прывядзе да стварэння беларускамоўнага асяроддзя, якое не дазволіць загінуць роднай мове, а разам з ёй і беларускай нацыі. Калі дзяржава лічыць сябе беларускай, яна павінна падтрымліваць родную мову, нарэшце нармалізаваць сітуацыю з мовамі ў Беларусі.

Справа захавання і развіцця беларускай мовы цяпер амаль цалкам перайшла да нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, колькасць якой патроху расце, і што вельмі прыемна адзначыць — і за кошт моладзі. Нас ратуе тое, што беларуская зямля з яе цудоўнай прыродай, мяккімі прыгажэйшымі краявідамі нараджае народлірніка, з якога бесперапынна вылучаюцца паэты, мастакі, творцы з глыбокім пачуццём адданасці свайму роднаму куту, з нацыянальнай душой і сэрцам, цесна прывязанымі да родных каранёў. Ужо зараз яны ствараюць на беларускай мове выдатныя творы літаратуры і мастацтва, па розных кірунках ведаў энцыклапедыі, слоўнікі і г. д. Нягледзячы на велізарныя цяжкасці, якія ствараюць сучасныя ўлады, нацыянальна свядомая частка насельніцтва павінна зберагчы беларускую мову ад націску халуйствуючага чыноўніцтва, пранесці яе праз палітычныя буры аб'яднання, таталітарызму, савецкай (камуністычнай) настальгіі, глабалізацыі і да т. п., нармалізаваць у краіне моўнае жыццё, каб нашы нашчадкі былі ўдзячныя за тое, што мы не далі загінуць беларускай мове, а з ёю і ўсёй беларускай нацыі.

## Ганебны ўціск усяго беларускага

Вялікі непакой выклікае сучасны стан беларускай мовы, беларускай культуры, выхавання, адукацыі і нацыянальнага адраджэння — найгалоўнейшых кампанентаў захавання і жыцця беларускай нацыі.

На жаль, вельмі кароткая беларусізацыя і досыць інтэнсіўны працэс нацыянальнага адраджэння пачатку 90-х гадоў з часу ператварэння Беларусі ў прэзідэнцкую дзяржаву змяніліся на супрацлеглую арыентацыю. У выніку закрылася большасць беларускамоўных школ, класаў і садкоў. Зменшыліся колькасць і наклады беларускамоўных кніг, часопісаў і газет. СМІ (у тым ліку найбольш сярод іх уплывовае — тэлебачанне і радыё) усё больш пераходзяць на рускую мову і расійскую тэматыку. Спроба адкрыць Нацыянальны беларускамоўны універсітэт выклікае адмоўную рэакцыю ўладавых структур.

Многія талерантныя беларусы, звыклыя бяздумна браць прыклад са свайго начальства, перасталі размаўляць на роднай мове. Яскрава гэта назіраецца ва ўрадавых структурах, палатах Нацыянальнага сходу і наогул ва ўсёй прэзідэнцкай "вертыкалі", адкуль беларуская мова зусім выкінута. На жаль, гэтая плынь моцна захапіла і кіраўнікоў школ, вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, Нацыянальнай акадэміі навук, навуковых інстытутаў, прадпрыемстваў, калгасаў і г. д. Дакументацыя і абслугоўванне ва ўсіх грамадскіх установах, уключаючы пошту, магазіны, паліклінікі і інш., вядзецца амаль выключна на рускай мове. Закон аб мовах не выконваецца, нават і дзвюхмоўя сапраўднага няма. Усё разам прывяло да катастрафічнага стану беларускай мовы, калі яе практычна не чуваць на вуліцах гарадоў і, нават, вёсак.

Такая сітуацыя стварае ўмовы для новага выбуху імклівай асіміляцыі беларусаў, якая працягваецца ўжо многія дзесяткі і нават сотні гадоў. Яшчэ ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя мой бацька Гаўрыла Гарэцкі апублікаваў працу "Нацыянальныя асаблівасці БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г.". Ён прыйшоў да вельмі сумнай высновы, што "беларусы перажываюць працэс асіміляцыі выключнай моцы, які ставіць беларусаў на ўзровень (у гэтых адносінах) да найбольш "некультурных" нацыянальнасцей СССР, што стаяць на грані ўжо фізычнага змяншэння і выміраньня (камчадалы, асьцякі і да т. п.)". За савецкі час русіфікацыя насельніцтва СССР была такая моцная, што загінула больш чым 50 моў народаў Саюза, а многія трапілі ў Чырвоную кнігу. Нядаўна па тэлебачанні расказвалі пра ліваў у Латвіі, якіх засталося каля 100 чалавек і якія валодаюць гэтай старажытнай мовай угра-фінскай групы. Страх ахоплівае, калі падумаеш пра такі магчымы лёс нашай мовы. Наша агульная галоўная задача — не дапусціць беларускую мову ў Чырвоную кнігу! Успамінаю верш Пімена Панчанкі, у якім ён развітваецца з роднай мовай.

***Родны Янка Купала,***
***Вы пісалі:***
***"Я веру: настане...!"***
***Дарагі мой Іван Дамінікавіч,***
***Не, не настане!***
***Гэта ўжо не світанне***
***Гэта наша***
***настала змярканне,***
***Гэта з мовай маёй,***
***Гэта з песняй маёй***
***Развітанне.***

Уяўляю, як раскалвалася на дробныя кавалкі сэрца песняра, як было цяжка дыхаць яму, калі ён пісаў гэты верш. Мо і пайшоў таму ад нас заўчасна. Ад крыўды плачу, ад болю крычу, чытаючы гэтыя Панчанкавы радкі.

## Не, не ўсё яшчэ страчана

Нягледзячы на такі стан беларускай мовы, мы ў Беларусі бачым яшчэ адзін дзівосны парадокс: апошні перапіс насельніцтва, які, дарэчы, праводзіўся пад русіфікатарскім націскам, паказаў, што беларусамі сябе лічаць 81,9% жыхароў краіны, роднай мовай беларускую — 73,7%, а 37% размаўляюць на ёй. Значыць, жыве беларускасць і любоў да мовы ў многіх беларусаў! Неабходна ствараць беларускамоўнае асяроддзе, неабходна падтрымка мовы дзяржаўнай. Калі будуць такія ўмовы, можна чакаць інтэнсіўных выбух беларускамоўнасці, які патрэбны нам, бы паветра. Бо без мовы няма нацыі.

Многае робіць для пашырэння мовы тытульнай нацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Таварыства беларускай школы, Скарынаўскі цэнтр, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, свядомая інтэлігенцыя (пісьменнікі, мастакі, настаўнікі, навукоўцы), шэраг партый дэмакратычнага кірунку. Усё гэта ўсяляе надзею, што агульнымі намаганнямі мы не дадзім загінуць мове беларускай. Будзе жыць беларуская мова, будзе жыць цудоўная краіна свету — Беларусь!





# Акадэміку РАДЗІМУ ГАРЭЦКАМУ - 75 ГОД

7 снежня 2003 года спаўняецца 75 год акадэміку Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і акадэміку Расійскай Акадэміі навук Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, выдатнаму беларускаму вучонаму і грамадскаму дзеячу, сябру Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, прадстаўніку слаўнага ў гісторыі Беларусі і беларускай культуры роду Гарэцкіх.

Радзім Гарэцкі нарадзіўся ў Менску, аднак доўгі час знаходзіўся ў Расіі, паколькі яго бацька, акадэмік Беларускай Акадэміі навук Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі быў рэпрэсаваны, а сям'я выслана. Радзім Гарэцкі з юных гадоў захаваў той дух беларускасці, які быў у сям'і. Радзім Гарэцкі скончыў Маскоўскі нафтавы інстытут і доўгі час працаваў у Геалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР у Маскве, дзе ў 1961 г. абараніў кандыдацкую, а ў 1969 г – доктарскую дысертацыю па спецыяльнасці "геолага –мінералагічныя навукі". З 1971 г. Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі працуе ў Акадэміі навук Беларусі, у інстытуце геалагічных навук, загадчыкам лабараторыі геатактонікі, а ў 1972-1993 гг. дырэктарам інстытута. З 1995 г. Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі ганаровы дырэктар інстытута. У 1992-1997 гг. ён быў абраны агульным сходам Акадэміі навук яе віца-прэзідэнтам.

Акадэмік Радзім Гарэцкі з'яўляецца заснавальнікам беларускай школы тэктаністаў. За свае навуковыя дасягненні ён у 1980 г. атрымаў вучонае званне прафесара, у 1978 г – званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі. У 1972 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, а ў 1977 г. – акадэмікам, з 1994 г. – замежны сябра Расійскай Акадэміі навук, і з 1993 г. – сябра Амерыканскага геафізічнага саюза. Радзім Гарэцкі з 1995 г. працуе загадчыкам кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мае больш за 600 навуковых прац, не лічачы навукова-папулярных, шмат прац грамадскага характару. У Радзіма Гарэцкага шмат паслядоўнікаў ягонай навуковай школы: гэта і дактары навук, кансультантам якіх ён з'яўляецца, і кандыдаты навук, у якіх ён быў навуковым кіраўніком, гэта і сотні выпускнікоў і студэнтаў БДУ.

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі – выдатны беларускі вучоны, які працягвае справу свайго бацькі ў беларускай навуцы.

Вялікую актыўнасць праяўляе акадэмік Радзім Гарэцкі ў грамадскай дзейнасці. У 1990 г. Р. Г. Гарэцкі быў абраны сябрам Рады, а з 1993 да 2001 г. быў прэзідэнтам "Згуртавання Беларусаў Свету" Бацькаўшчына". Ён адзін з арганізатараў падрыхтоўкі да ўсіх з'ездаў МГА "Згуртавання Беларусаў Свету "Бацькаўшчына". Па-ранейшаму актыўна ўдзельнічае ў працы "Бацькаўшчыны" і карыстаецца вялікім аўтарытэтам у замежных суполках Згуртавання.

У свой час, у 1993-1997 гг. акадэмік Р. Г. Гарэцкі быў сябрам рэдкалегіі газеты ТБМ імя Ф. Скарыны "Наша слова".

Радзім Гарэцкі – вельмі ўплывовы грамадскі дзеяч. Таму яго выбіраюць у аргкамітэты з нагоды святкавання юбілейных і іншых датаў беларускай гісторыі і культуры.

Р. Г. Гарэцкі – аўтар шматлікіх публіцыстычных артыкулаў у абарону беларускай мовы, культуры, незалежнасці. У 2000 г. ён быў абраны сустаршынём Усебеларускага з'езду за незалежнасць, а пазней ён падпісаў ва ўрачыстых абставінах Акт незалежнасці Беларусі, прыняты з'ездам.



XI Гарэцкія чытанні, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Музей гісторыі літаратуры (Менск, 18 лютага 2003 г.)

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі – аўтар некалькіх кніг па гісторыі дзеячаў са свайго слаўнага роду Гарэцкіх. Ён – адзін з самых аўтарытэтных нашых сучаснікаў, грамадзян Рэспублікі Беларусь.

З нагоды 75-годдзя вельмішаноўнага Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага зычу яму доўгіх гадоў жыцця, добрага здароўя, плённай навуковай і грамадскай працы на карысць нашай роднай Беларусі.

*Анатоль Грыцкевіч, сябар Рады ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны".*



На святкаванні 80-х угодкаў БНР у айца Аляксандра Надсана. 28.03.1998 г. Лондан.

*Вольга Іпатава*

# З магутнага дрэва Гарэцкіх...

Трэба быць добра дасведчаным ў палітычнай гісторыі Беларусі, каб правільна прачытаць і зразумець глыбінны сэнс такога сказу з афіцыйнай біяграфіі члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, геолага, доктара мінералагічных навук, а перадусім – слыннага сына беларускай зямлі і выдатнага грамадскага дзеяча Радзіма Гарэцкага: "Асноўныя даследаванні па тактоніцы Казахстана, Сярэдняй Азіі, абласцей Туранскай пліты..." ён змог, нягледзячы на кляймо "сына ворага народу", скончыць у 1952 годзе Маскоўскі нафтавы інстытут і асноўную сваю навуковую сцяжыну прайсці тут, на радзіме, дзе ён з 1971 года стаў працаваць загадчыкам аддзела агульнай і рэгіянальнай тактонікі Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук. Праз два гады выключныя веды і выдатны навуковы талент зрабілі яго намеснікам акадэміка – сакратара аддзялення хімічных і геалагічных навук АН Беларусі.



У адпачынку з унучкай Марыяй і ўнукам Максімам. Жнівень 2003 г.

Наіўны чалавек падумае -рамантык, які, як спявалася ў некалі папулярнай песні, паехаў "па туман і па водар тайгі." А насамрэч гэта яна, тайга, туман і высылка шпурлялі ўслед за вязнем-бацькам хлопчыка, якога мы сёння, праз дзесяцігоддзі, ведаем і любім за ягоны высокі патрыятычны дух, за нязломнасць і духоўную вышыню. А яшчэ за тое, што ён, слаўны атожылак магутнага дрэва Гарэцкіх, годна нясе гэты дар – народзіны ў такой сям'і...

Сын акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, малодшага брата Максіма Гарэцкага, ён рос з бацькам і (пазней, духоўна) з дзядзькам, якога расстралялі за тое, што ён любіў Беларусь, служыў ёй і мастацкім словам, і ўсім сваім жыццём. Нездарма ў дзённіку Гаўрылы Гарэцкага, які адчайна імкнуўся вярнуцца на Беларусь і сам цудам пазбегнуў расстрэлу, напісана: "З кіем старэцкім, але прыйсці на Радзіму..."

Бацька здолеў вярнуцца туды толькі ў 1968 годзе, дзе пражыў апошнія дваццаць гадоў Сыну болеей пашанцавала на Час -

Але ў душы яго навечна застаўся боль па ўсіх забітых і расстраляных у іхняй незвычайнай сям'і – сям'і беларусаў, якія ніколі не здраджвалі свайму народу, ягонай мове і былі ўзорам выхаванасці і духоўнай дасканаласці для сыноў і ўнукаў. Нездарма ў сваіх успамінах пра бацьку і маці, бабулю і дзеда Радзім Гарэцкі называе іх словамі з вялікай літары : Мама, Тата, Дзед., Буля (бабуля Марыя Міхайлаўна). Калі чытаеш гэтыя ўспаміны, сціскаецца сэрца ад усіх тых выпрабаванняў, якія Лёс даваў гэтай сям'і. Прыводзім невялікі ўрывак з маленства Радзіма, які жыў у тых жа мясцінах, дзе і арыштавалі бацька ( далей не было ўжо куды вывозіць): " Часцей за ўсё вязняў выводзілі за вароты турмы, садзілі на грузавыя машыны, крытыя брызентам, і некуды вазілі. Мы выбягалі на дарогу, па якой павінны былі праязджаць машыны, і нам пашчасціла некалькі разоў пабачыць бацьку. Аднойчы вялі пешшу невялікую групу праз мост, а мы тут як тут. Заўважылі тату: худы, паніклыя вочы, на апухлых нагах нейкія падраныя тапачкі, прывязаныя шпагатам (на ногі ні чаравікі, ні нават тапкі не налазілі). Убачыўшы нас, Тата неяк яшчэ больш сагнуўся, апусціў галаву. Бо, відаць, яму было няёмка, што сыны бачаць яго ў такім выглядзе. Але вочы трошкі ўсміхнуліся, і ён махнуў рукой – як быццам развітаўся назаўсёды..."

Гаўрыла Гарэцкі развітваўся з сям'ёй неаднойчы. Але здолеў вытрымаць і катаванні, і здзекі, і абсурдныя абвінавачванні ў шпіянажы на карысць замежных выведак, якія ў рэшце рэшт былі з яго афіцыйна знятыя.

Сыну, які з маленства быў ў гіблых высыльных месцах, звыкла было працаваць, будучы ўжо студэнтам-дыпломнікам, у паўпустынных раёнах Казахстана. Там таксама было шмат высыльных, але там ён спаткаў выдатнага вучонага А. Л. Яншына, які стаў ягоным Настаўнікам і прапанаваў яму працу ў Інстытуце геалагічных навук Акадэміі навук СССР. Там можна было б і застацца, не ехаць на Беларусь. Але сэрца шчымела і клікала яго на родную зямлю.

(Заканчэнне на ст. 4)



# Сустрэча з Вольгай Іпатавай

Не так часта наведваюць нашу школу беларускія пісьменнікі, прайшлі часы, калі яны прыязджалі ў Вільню і месяцамі працавалі ў архівах і бібліятэках над будучымі творамі.



Таму кожная сустрэча – свята ў школе, падзея, да якой рыхтуюцца і вучні і настаўнікі.

Днямі і адбылася такая сустрэча з вядомай беларускай пісьменніцай Вольгай Іпатавай. У зале настаўнікі роднай мовы і тыя, хто сочыць за творчасцю, вучні старэйшых класаў і пяцікласнікі, для якіх вывучэнне праграмных твораў уперадзе, а ўбачыць класіка -- гонар. На пачатку сустрэчы Вольга Міхайлаўна прачытала некалькі вершаў, яна і пачынала свой творчы шлях, як паэтка, а паступова перайшла да апошняга эпічнага твору – трылогіі “Альгердава дзіда”. І ў нашай школе адбылася своеасаблівая прэзэнтацыя кнігі, а таксама зборніка паэзіі літоўскіх паэтаў у перакладзе В. Іпатавай, М. Скоблы, Э. Акуліна.

Вольга Міхайлаўна падаравала школьнай бібліятэцы не толькі свае кнігі, а і ўспаміны Барыса Кіта запісаныя Васілём Быкавым і кнігу Лідзіі Савік “Адна між замкаў”.

Кнігі В. Іпатавай я чытала, апошнюю “Альгердава дзіда” – летам, пра яе грунтоўную рэцэнзію напісаў прафесар Ул. Конан, “Ад Міндоўга да Альгерда: сустрэча цывілізацыяў”, надрукаваную ў газеце “Новы час”, Ніна Мацяш у “Культуры”, пісала і газета “Наша слова”, а вось “Прадылславу” перачытала і з задавальненнем прачытала кнігу Л. Савік “Адна між замкаў, літаратурны партрэт Вольгі Іпатавай”.

Кнігу прачытала не адкладваючы, столькі шмат цікавага знайшла для сябе, даўно сачу за творчасцю пісьменніцы з радасцю пачула, што амаль дапісаны раман пра Віленскіх пакутнікаў, значыць хутка адбудзецца яшчэ адно “падарожжа ў гістарычнае мінулае”, яшчэ адна сустрэча з пісьменніцай і абавязкова ў Вільні. Напрыканцы хочацца працытаваць радкі з кнігі Л. Савік “Адна між замкаў”.

*“Яна* (В. Іпатава) *заўсёды імкнулася падкрэсліць, што сапраўдную паэзію, прозу нельга ўявіць без кроўнай сувязі з Радзімай, без асэнсавання духоўных пошукаў чалавека. Таму што душа – гэта Радзіма, гэта боль і гарэнне, адчуванне сябе не толькі грамадзянінам свету, але і парасткам поля, засеянага продкамі, адчуванне сябе прадстаўніком роднай зямлі, дзе б ты ні жыў, Менавіта так яна сябе і адчувае, не ўяўляе сябе і сваю творчасць без Радзімы, яе гісторыі”.*

І Радзіма без Вольгі Іпатавай была б шмат бяднейшай. У многіх краінах свету была пісьменніца, але заўсёды вярталася на Радзіму, якой яна беднай не была б, бо тут яна чэрпае нястомную энергію, тут яе вытокі творчасці, тут яна патрэбная людзям, тут яе чытач. Хай яшчэ доўгія-доўгія гады не згасае агменьчык Вашай творчасці.

Некалі Фанвізін запісаў для сябе дэвіз:

***“Ты должен посвятить***
***Отечеству свой век,***
***Коль хочешь навсегда***
***быть честным, человек.”***

Гэтыя словы можна аднесці і да творчай асобы – Вольгі Іпатавай.

***Леакадзія Мілаш,***
***настаўніца віленскай школы імя Фр. Скарыны.***

# Спатканне з паслом Штрохалем

25 лістапада 2003 г. у сядзібе АБСЕ ў Менску адбылося спатканне дырэктара Бюро АБСЕ па Дэмакратычных інстытутах і правах чалавека, пасла Крысціяна Штрохаля з кіраўнікамі ўплывовых няўрадавых арганізацый Беларусі.

Спадар Крысціян звярнуўся да прысутных з просьбай выказаць свае прапановы па тых пытаннях, якія Бюро АБСЕ можа падняць на перамовах з беларускімі ўладамі. Старшыня ТБМ Алег Трусаў, які быў запрошаны на гэтую сустрэчу амбасадарам АБСЕ сп. Эберхардам Хайкенам, прапанаваў сп. Крысціяну звярнуцца да ўладных структур Беларусі з прапановай аднавіць дзейнасць ліквідаванага беларускага ліцэя і вярнуць яму забраны будынак. А.Трусаў таксама падняў праблему адкрыцця з дапамогай АБСЕ незалежнага беларускамоўнага спадарожнікавага тэлеканала. Ён перадаў госцю матэрыялы, прынятыя на апошнім VIII з'ездзе ТБМ і выказаў спадзяванне, што АВСЕ ўважліва паставіцца да парушэння лінгвістычных правоў грамадзян Беларусі.

**Наш карэспандэнт.**

# НОВАЕ ПРА СЛОНІМ

***“Вы ездзіце ў Беларусь? Дык пэўна вы былі ў Слоніме? Прыгожы горад! А якая гісторыя... А канал Агінскага, а Шчара... Вы не былі? Тады абавязкова, проста абавязкова, паедзьце ў Слонім”.*** Такімі словамі пачынаецца альбом **“Абліччы Слоніма” (Slonim odslony)**, выдадзены ў 2002 годзе ў Варшаве. Ён з'явіўся вынікам двухгадовай працы групы студэнтаў Факультэта Этналогіі і Антрапалогіі Культуры Варшаўскага універсітэта, якія прымалі ўдзел у працы этнаграфічнай лабараторыі “Вобразы нацыянальных, этнічных, рэлігійных і грамадскіх групаў – Беларусі пад кіраўніцтвам Катажыны Вашчыньскай.

Для многіх з іх паездка ў Слонім і на Беларусь была першай сустрэчай з Усходам. У ходзе працы было зроблена каля 5000 здымкаў, частка якіх увайшла ў альбом, і быў зняты шасцігадзінны фільм. Пры складанні альбома былі выкарыстаны фотаздымкі Юзафа Шыманчыка, вядомага фатографа Палесся пач.-сяр. XX ст. яны былі зроблены падчас нямецкай акупацыі ў 1942-1944 г.г. і ніколі не публікаваліся, што робіць іх яшчэ больш цікавымі.

Альбом складаецца з трох частак: у першай тэкставай, значнае месца адведзена гісторыі станаўлення і развіцця самога горада Слоніма, расказваецца аб тым, як ствараўся альбом, змяшчаюцца біяграфічныя звесткі аб Ю. Шыманчыку, аўтары 31 фотаздымка Слоніма 40-х г.г. XX ст., якія перадаюць атмасферу горада тых часоў і складаюць другую частку альбома. У трэцяй – змяшчаюцца 59 чорна-белых і каляровых сучасных здымкаў саміх студэнтаў. Яны перамяжоўваюцца з больш раннімі дзеля таго, каб “падкрэсліць неаспрэчнае хараство Слоніма, але і заахвоціць задумацца над неадназначнасцю гісторыі гэтых земляў”.

На Беларусі альбом з'явіўся ў лістападзе 2003 года. На яго старонках будучыя этнографы выказваюць падзяку ўсім тым, хто, не шкадуючы свайго часу і энергіі, дапамагаў ім: “Гэты альбом-наша падзяка за іхную сардэчнасць, цярплівасць, дабразычлівасць і гасціннасць. Словы падзякі выказываем таксама спадару Юзафу, слонімскія здымкі якого далі нашаму веку большую ўражлівасць. Усім вялікі дзякуй.”

Альбом выйшаў на трох мовах: польскай, беларускай і ангельскай, але нажаль, невялікім накладам.

Гэты альбом “Абліччы Слоніма” будзе цікавы ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй роднай зямлі.

***Студэнтка БДУ культуры***
***Ганна Грыневіч.***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, “Наша слова”!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Ідзе падпіска на газету ТБМ “Наша слова” на першае паўгоддзе 2004 года. Толькі ў нас вы знойдзеце ўсю інфармацыю па праблемах нашай мовы, нашай нацыі і нашых нацыянальных здабытках ды перспектывах. Толькі ў нас уся інфармацыя пра дзейнасць ТБМ. Толькі на нашых старонках можа выказацца кожны сябар ТБМ. Будзьце з намі!*

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету/часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 3750 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

# *Сядзіба ТБМ запрашае*

Пачынаючы з чэрвеня, ТБМ аднавіла **пасяджэнні гістарычнага семінара** для моладзі Менска.

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан і Анатоль Грыцкевіч.**

**3 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць вядомая беларуская пісьменніца **Вольга Іпатава**, якая распавядзе пра Менскія вакаліцы і ролю Менска ў яе творчым жыцці

**4 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць доктар гістарычных навук, прафесар **Анатоль Грыцкевіч**, які распавядзе пра гістарычную тапаграфію Менска.

**10 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць вядомая беларуская пісьменніца **Вольга Іпатава**, якая распавядзе пра Менскія вакаліцы і ролю Менска ў яе творчым жыцці

**12 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць кандыдат гістарычных навук **Віталь Скалабан**, які распавядзе пра палітычныя партыі і рухі Менска

**17 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць вядомы беларускі пісьменнік **Кастусь Тарасаў**, які распавядзе пра Менскія вакаліцы і Менск у часы сталінскіх рэпрэсій

**19 снежня ў 18.00.**

Перад прысутнымі выступіць кандыдат гістарычных навук **Віталь Скалабан**, які распавядзе пра палітычныя партыі і рухі Менска

***Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і бліжэйшых ваколіц.***





# Святло беларускай свядомасці.

## Ксёндз Аляксандр Астрамовіч.

*“Нар. 26.11.1878 г.*
*Памёр 17.01.1921 г.*
*Пробашч сенненскай парафіі*
*(1919-1921 гг.)*
*Паэт, літаратурны псеўданім*
*Андрэй Зязюля Верны сын касцёла*
*і беларускага народа.*
*“Ніхто з нас не жыве дзеля сябе,*
*і ніхто не памірае дзеля сябе”.*
*Рым 14.7.*
*Вечны адпачынак дай яму Пане.*
*Магіла сімвалічная.”*

Крыж і шыльда з такім надпісам устаноўлена на сенненскіх могілках па ініцыятыве і намаганнямі сяброў суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарына, патрыятычнага клуба “Спарта” і каталіцкай парафіі.

Пра Аляксандра Астрамовіча, ксяндза сенненскага касцёла, пробашча мясцовай парафіі (1919-1921 гг.), паэта, які пісаў і друкаваўся пад псеўданімам Андрэй Зязюля, ведаюць у нашай краіне, нажаль, нямногія і няшмат, аб чым можна толькі шкадаваць.

Нарадзіўся будучы святар і паэт у сям'і сялян вёскі Навасады Ашмянскага павета. Пачатковую адукацыю набыў у Гальшанах, скончыў Ашмянскае павятовае вучылішча.

Працаваў на бацькавай гаспадарцы, служыў у пяхотным Абхазскім палку ў Гомелі і Барысаве. Скончыў службу ў званні малодшага афіцэра.

Але Аляксандр Астрамовіч шукае іншай службы – ён паступае ў Пецярбургскую духоўную каталіцкую семінарыю. Там, як і іншыя будучыя беларускія адраджэнцы, быў пад духоўнай апекай прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы.

Пасвечаны ў святары ў 1910 годзе, душпастарскую дзейнасць Аляксандр Астрамовіч пачаў вікарыем ракаўскага касцёла. Служыў у парафіі Антопаль, Смілавічы. З верасня 1917 года ён пробашч касцёла ў Абольцах Аршанскага дэканата. Апошнія два гады правёў у Сянно, дзе і памёр. Пахаваны на мясцовых могілках. Але дзе канкрэтна, невядома да гэтага часу. Менавіта таму, летась напярэдадні Дзядоў і з'явілася на могілках сімвалічная магіла. Ксёндз Януш у дзень памінання ўсіх святых адслужыў на ёй службу, на магілу прыйшлі парафіяне, сябры суполкі Таварыства беларускай мовы, клуба “Спарта”.

Частыя змены месца службы ксяндзда Астрамовіча не былі выпадковымі. Польская каталіцкая адміністрацыя не давярала ксяндзу-беларусу, які карыстаўся ў касцёле роднай мовай, актыўна займаўся грамадскай дзейнасую, пісаў вершы. Але і гэтыя частыя вандроўкі А. Астрамовіч выкарыстоўваў, каб паслужыць народу, Радзіме. У прадмове да пасмяротнага выдання выбраных твораў А. Зязюллі Адам Станкевіч, лідэр беларускага каталіцкага адраджэння першай паловы мінулага года пісаў: “Нёс ён прамень праўды, святло беларускай народнай свядомасці, як жывым словам, так і праз кніжку, газету... Зязюля – гэта праўдзівы ідэаліст, гэта мучанік за родную ідэю”

Аляксандр Астрамовіч удзельнічаў у першым з'ездзе беларусікх каталіцкіх святароў, быў сябрам Саюза ксяндзоў-беларусаў, які неўзабаве перарос спачатку ў грамадскую арганізацыю Беларуская Хрысціянская Злучнасць, потым у партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Ён горача вітаў абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, арганізоўваў па даручэнні яе Народнага сакратарыята беларускія школы, мястэчковыя і павятовыя органы улады БНР. Пасля таго, як беларускія бальшавікі з дапамогай арміі сваіх расійскіх аднадумцаў прыбралі ўладу ў свае рукі, пераследаваўся за сваю нацыянальную і рэлігійна-асветніцкую дзейнасць. Восенню 1920 года некалькі тыдняў ён правёў у астрозе Віцебскага губчэка, пасля чаго, неўзабаве, памёр.

Першы верш “Песня дзяўчаці”. Друкаваўся ў “Нашай ніве”. Тады ж адбылося яго знаёмства з Янкам Купалам, які вучыўся на курсах Чарняева ў Пецярбурзе. Блізкае сяброўства звязвала ксяндза-паэта і з Якубам Коласам. Пасля заснавання першай беларускай каталіцкай газеты “Беларус” А. Астравовіч шмат друкаваўся ў гэтым штотыднёвіку. У ім быў апублікаваны адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў, напісаны лацінкай, “З роднага загону”. Пазней А. Астрамовіч друкаваўся ў іншых беларускіх перыядычных выданнях “Светач”, “Гоман”, “Вольная Беларусь”, “Крыніца” і інш. Асобным выданнем пры жыцці паэта была апублікавана таксама яго асветніцкая паэма “Словы праўды аб мове і долі беларусаў”. Пасля смерці паэта намаганнямі Адама Станкевіча друкаваліся іншыя яго творы, а таксама зборнікі. Па словах усё таго ж А. Станкевіча: “Характарам Астрамовіч быў шчыры, дзіўна просты, запальны і гарачы, заўсёды вясёлы, добры, услужны, горача набожны і дзіўна патрыятычны”.

А вось як пісаў у вершы “Лес у маі” і пра сябе, відаць, сам Аляксандр Астрамовіч.

*Узіраемся ўвыш*
*І шукаем тых зор,*
*Што вядуць нас праз крыж*
*У нябесны прастор.*
*І надзеі прамень*
*Разам з верай тады*
*Прабіваецца ў цень*
*Беспрасветнай жуды.*
*Вось тады, як дзіця,*
*Хочацца жыць і любіць,*
*Крыж і церні жыцця,*
*Каб рай заслужыць.*

Пазалетась споўнілася 80 гадоў, як адышоў у лепшы свет Аляксандр Астрамовіч. Сёлета адзначылі 125-я ўгодкі з дня яго народзін. Але ў навейшай гісторыі нашай краіны імя яго, як і творы, застаюцца напаўзабытымі.

*А. Лазюк,*
*старшыня Сенненскай*
*суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.*

*Васіль Ліцьвінка*

# Зарыян Даленга-Хадакоўскі і Мікіта Талстой



У наступным 2004 годзе ўсё славянства будзе адзначаць ў простым сэнсе легендарнае імя ў беларускай гісторыі – 220-годдзе з дня нараджэння пачынальніка славянскай фалькларыстыкі беларуса Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, які паралельна з выдатным сербам Вукам Караджычам на поўдні, распачаў народазнаўства на захадзе і ўсходзе Славіі.

**Выдатны славіст Зарыян Даленга-Хадакоўскі (сапраўднае імя Адам Чарноцкі) нарадзіўся 24 снежня 1784 годзе ў маёнтку Гайна Барысаўскага павету цяперашняга Лагойскага раёна. Ён быў адвакатам у Менску, працаваў у многіх вядомых кнігазборах, у тым ліку і ў Чартарыйскім, вывучаў старажытныя беларускія акты і граматы ў менскіх архівах. За ўдзел у паўстанні Адам Чарноцкі быў сасланы на катаргу, збег адтуль і з фінансавай дапамогай Расейскай акадэміі навук усё жыццё вёў навуковыя даследаванні пад псеўданімам і з прыдуманай біяграфіяй.**

**Адпаведна выбранаму мнагазначнаму псеўданіму, Хадакоўскі многа вандраваў, збіраў археаграфічныя матэрыялы, запісваў абрады, песні і дыялекты, пераважна на Палессі, даследаваў гарадзішчы каля Берасця, Турава, Гомеля, Магілёва, у Бабруйскім павеце, Старым сяле Віцебскага павету, у Віцебску і Полацку.**

**Амаль два стагоддзі назад, папярэдне даследаваўшы Карпацкі рэгіён, “ў палатнянай світцы, з заткнутай сенам бутэлечкай самагонкі ў правай кішэні на ўсякі выпадак, босым ў летні час” гэты пачынальнік славянскай фалькларыстыкі прайшоў прарадзіму славян Палессе ад Карпат да Гомеля і сваімі шматлікімі грунтоўнымі працамі заклаў асновы славянскай фалькларыстыкі.**

Найбольш актуальна і для нашага часу праца вучонага “Славянства да хрысціянства” (1818), дзе упершыню паказана ўнікальнасць старажытнаславянскай абрадавай культуры і месца фальклору ў ёй у дахрысціянскі перыяд, распрацаваны кірункі комплексных даследаванняў гісторыі і культуры славянскіх народаў. Далейшае развіццё яны атрымалі ў працах Хадакоўскага “Даследаванне адносна рускай гісторыі”(1819), “Праект вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі”(1820) і “Гістарычная сістэма Хадакоўскага”(1838).

Большасць сабраных славістам матэрыялаў, значная частка якіх знаходзіцца цепер ў Тарнопальскім краязнаўчым музеі на Украіне, не апублікавана, таму выключную каштоўнасць мае выдадзены ў 1974 годзе ў Кіеве зборнік “Украïньскі народні пісьні в записах Зоріана Доленги Ходаковського”, дзе шырока прадстаўлены запісы на Беларускім Палессі (тут, напрыклад, упершыню апублікаваны запіс карагоду з радзімічаўскага абрада Ваджэння і пахавання стралы “Як пушчу стралу дай па ўсём сялу”).

Археолаг Хадакоўскі абгрунтаваў тэорыю ўзнікнення гарадзішчаў, як фалькларыст і мовавед распрацаваў прынылы збору фальклору і дыялектаў, акцэнтаваў увагу на вялікай каштоўнасці тапанімічных паданняў і назваў для гістарычных даследаванняў.

Фальклорны архіў Хадакоўскага паралельна са зборам серба Вука Караджыча – першы і самы багаты збор фальклору славянскіх народаў па колькасці запісаў і па велічыні ахопленай тэрыторыі, а праца вучонага – пачатак сістэматызаванага запісу з навуковай пашпартызацыяй і сінкрэтычным навуковым падыходам да даследавання фальклору славянскіх народаў. Яна стала асновай для вызначэння прарадзімы славян, славянскага этнагенезу, праграмай для навуковых аб'яднанняў Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы.

У гутарках з аўтарам гэтых нататак выдатны даследчык сучаснай Славіі, праўнук Льва Талстога і ўраджэнец Сербіі, акадэмік Расійскай, Македонскай і Аўстрыйскай акадэмій навук Мікіта Талстой, 80-годдзе якога шырока адзначаецца на Беларусі ў гэтым годзе, сцвярджаў, што мы “лёгкадумна і памылкова недаацэньваем” праславянскую культуру і яе даследчыкаў. З 1962 і да самай знішчальнай для этнічнай культуры ўсходніх славян Чарнобыльскай катастрофы ў 1986 годзе Мікіта Талстой выключна своечасова і плённа, з прыцягненнем шырокіх навуковых колаў Менска, Гомеля, Мазыра, Кіева, Чарнігава, Жытоміра, Масквы, Пецярбурга і Бранска паўтарыў навуковы вычын. Вынікам яго стала стварэнне самастойнай галіны філалогіі – этналінгвістыкі, значэнне якой для даследавання этнічнай культуры нельга пераацаніць, шматлікія грунтоўныя працы, сярод якіх аснова для дальнейшых даследаванняў на сучасным узроўні закладзена навукова-метадычным “Палескім этналінгвістычным зборнікам” і этналінгвістычнымі архівамі ў Інстытуце славістыкі Расійскай акадэміі навук, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і фальклорным архіве навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта.

**У 2003 годзе споўнілася 80 год з дня нараджэння выдатнага рускага этналінгвіста Мікіты Ільіча Талстога (1923-1996). Ён нарадзіўся ў горадзе Вршац (Сербія) у сям'і ўнука Льва Талстога Іллі і Вольгі Талстых, даследаваў духоўную культуру славянскіх народаў, іх мовы, дыялекталогію, фальклор, тапаніміку, этнаграфію і гісторыю. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973), член Расійскай, Македонскай і Аўстрыйскай акадэмій навук, ён з 1954 года пачаў вялікую працу па стварэнню этналінгвістыкі як самастойнай галіны філалогіі, спачатку ў Расіі ў Інстытуце славістыкі і балканістыкі ў Маскве, а з 1962 года і на Беларусі. Пад яго ўздзеяннем узніклі цэлыя школы этналінгвістаў у Мінску, Гомелі, Мазыры, Бранску, Чарнігаве, Жытоміры і многіх іншых гарадах Палесся. Абрадавая культура, па яго ўласным выказванні, “гэтага ўнікальнага рэгіёна для**



**даследчыка старажытнаславянскага перыяду” была для вучонага прадметам глыбокага зацікаўлення і даследавання на працягу ўсяго апошняга перыяду жыцця.**

З 1968 года ён арганізоўваў і ўзначальваў да самай Чарнобыльскай катастрофы 1986 года спачатку дыялекталагічныя, а з 1975 – комплексныя этналінгвістычныя экспедыцыі сіламі створаных ім этналінгвістычных цэнтраў на Палессі, вынікам якіх стаў багаты Палескі архіў у Маскве ў цяперашнім Інстытуце славістыкі РАН. Матэрыялы яго выдаваліся ў зборніках: “Лексіка Палесся: Матэрыялы для дыялектнага слоўніка” (1968); “Палессе: Лінгвістыка. Археалогія. Тапаніміка.” (1968); “Лексіка Палесся ў прасторы і часе” (1971); “Палескі этналінгвістычны зборнік. Матэрыялы і даследаванні” (1983). У іх М. Талстой выступае як аўтар, сааўтар і рэдактар прац “Аб даследаванні палескай лексікі”, “Вызыванне дажджу на Палессі”, “Аб задачах этналінгвістычнага даследавання Палесся”, “Аб рэканструкцыі праславянскай фразеалогіі”, “Вярбальны тэкст як ключ да семантыкі абраду”, “Аб прадмеце этналінгвістыкі і яе ролі ў вывучэнні мовы і этнасу”, “Заўвагі па славянскай дэманалогіі”, “Са славянскіх этнакультурных старажытнасцяў”, “Народная этымологія і структура славянскага рытуальнога тэксту”, “Слова ў абрадавым тэксце”, “Міфалагічнае ў славянскай народнай паэзіі” і шматлікіх іншых. Значнай з'явай у навуцы стала яго манаграфія “Мова і народная культура”(М.,1995).

З вынікамі палескіх даследаванняў Талстой пастаянна знаёміў на разнастайных навуковых канферэнцыях і ўсеславянскіх форумах, з'ездах і публікаваў у кнізе “Праблемы славянскай этнаграфіі” і ў серыйным выданні “Славянскі і балканскі фальклор”, якое друкуецца з 1978 года.

Выдатна адзначыла юбілей мужа Святлана Талстая – прадаўжальніца яго справы, загадчык сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута славістыкі РАН, ганаровы старшыня нашай канферэнцыі. Як укладальнік і адказны рэдактар, яна падрыхтавала фундаментальнае выніковае выданне прац Мікіты Талстога “Нарысы славянскага язычніцтва” (М., 2003), якое, няма сумнення, будзе метадалагічнай асновай дзейнасці этналінгвістаў, моваведаў, фалькларыстаў і гісторыкаў культуры ў XXI стагоддзі. Сектарам два тамы выдадзены і два падрыхтаваны да выдання з 5-томнага фундаментальнага слоўніка “Славянскія старажытнасці”.

Праўнук Льва Талстога, таленавіты даследчык духоўнай культуры славянскіх народаў сцвердзіў унікальнасць старажытнай культуры Палесся ў перадчарнобыльскі перыяд і гэтым здзейсніў навуковы вычын.

# СТРАЦІМ – ЛЕБЕДЗЬ

**(Да 112-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча)**



Хутка споўніцца 112 гадоў з дня нараджэння Максіма "Адамавіча Багдановіча, выдатнага беларускага паэта, таленавітага літаратуразнаўца, гісторыка, крытыка і перакладчыка, чалавека незвычайнага лёсу і рэдкага таленту, ён набыў вядомасць сваім літаратурным, грамадзянскім і чалавечым вычынам.

Зазначым, што творчасць Максіма Багдановіча яшчэ пасапраўднаму не данесена да кожнага вучня, кожнага чытача. Мы, сябры навукова-даследчага гуртка "Страцім-лебедзь", створанага з ліку студэнтаў факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання Мазырскага дзяржпедуніверсітэта, узялі за абавязак садзейнічаць пашырэнню знаёмства з творчасцю любімага паэта.

Паэтычны характар Максіма Багдановіча на рэдкасць мэтанакіраваны і цэласны. Яго ўсеабдымнай жарсцю была любоў да роднай Беларусі і яе шматпакутнага народа, мовы. Боль за бяспраўны і прыніжаны стан народа быў пачаткам многіх творчых імкненняў душы паэта.

***Народ, Беларускі Народ!***
***Ты –цёмны, сляпы, быццам крот.***
***Табою ўсягды пагарджалі,***
***Цябе не пушчалі з ярма***
***І душу тваю абакралі, -***
***У ёй нават мовы няма.***
*("Народ, Беларускі Народ!")*

Хто з нас, калі быў школьнікам, не завучваў на памяць верш Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі" – адзін з найбольш вядомых твораў паэта, яго несумненны шэдэўр. Паэт пакінуў нам у спадчыну і такія шэдэўры нацыянальнай лірыкі, як "Зорка Венера", "Завіруха", якія даўно зрабіліся папулярнымі народнымі песнямі.

"Сярод беларускіх паэтаў Максім Багдановіч вылучаўся глыбокай і шырокай эрудыцыяй, тонкім разуменнем і пачуццём паэзіі", -адзначаў Якуб Колас.

Алег Лойка падкрэсліваў думку аб тым, што зборнікам "Вянок" Максім Багдановіч прывіў беларускай паэзіі паэтычную культуру, якой былі ўжо багатыя іншыя літаратуры свету.

Але паэтычная культура, безумоўна, не прыходзіць сама сабой. У Багдановіча яна – вынік упартай і няспыннай працы над пашырэннем свайго кругагляду, над узбагачэннем памяці выдатнымі здабыткамі паэтычнай культуры мінулага. Багдановіч, нагадаем, чытаў у арыгінале і перакладаў на родную беларускую мову творы Гарацыя і Авідыя, Гейнэ і Шылера, Верхарна і Верлена, выдатна ведаў і перакладаў паэзію рускую і украінскую, быў знаёмы з літаратурай многіх іншых народаў свету.

Першая сустрэча дзяцей з Максімам Багдановічам адбываецца ў дзіцячым садзе, калі яны знаёмяцца з казкай "Мушка – зелянушка і камарык –насаты тварык". Пазней дружба з паэтам замацоўваецца ў пачатковай школе; дзецям імпануюць жывапісныя апісанні прыроды роднага краю, яны добра ўспрымаюць жывыя, бадзёрыя малюнкі "Зімы", "Зімовага вечара", прыгажосць летняга вечара, вішнёвую квецень. Школькікі добра ведаюць верш "Не кувай ты, шэрая зязюля", творы на сацыяльныя тэмы: "Краю мой родны. Як выкляты богам...", "Я хлеба ў багатых прасіў і маліў", "Рушымся, брацця, хутчэй" і інш. Глыбокія па зместу, дасканалыя па форме вершы Максіма Багдановіча лёгка ўспрымаюцца чытачамі ўсіх узростаў.

Сын Беларусі памёр у Ялце ад туберкулёзу на досвітку 25 траўня 1917 г., на 26-м годзе жыцця Ён памёр высакародна і мужна, як жыў – без нараканняў і скаргаў. На яго стале ляжаў зборнік "Вянок", неадпраўлены бацьку ліст, а таксама – ліст, з наступнымі радкамі:

***У краіне светлай, дзе я ўміраю,***
***У белым доме ля сіняй бухты,***
***Я не самотны, я кнігу маю***
***З друкарні пана Марціна Кухты.***

Такі ён быў чалавек Максім Багдановіч – сын Беларусі.

А праз год, 26 траўня 1918 года ў газеце "Вольная Беларусь" быў змешчаны верш "Страцім – лебедзь" і матэрыялы, прысвечаныя гадавіне смерці паэта, сярод якіх і артыкул Зм. Бядулі "У гадаўшчыну". З успамінаў Зм. Бядулі:

*"Канец 1916 года. Мароз. Ноч... Я прачынаюся ад гучнага кашлю Максіма...*

*На яго тумбачцы ляжыць некалькі густа спісаных лісткоў. Я міжвольна чытаю назву: "Страцім-лебедзь"...*

*У аснову твора пакладзены народны сказ аб "Страцім – птушцы". Аб сваёй задуме Максім Багдановіч аднойчы паведаміў Змітраку Бядулю наступнае: "Я задумаў твор на тэму біблейскага міфу. Гэтую тэму навеяла мне вайна, гібель мільёнаў і мой уласны лёс..."* Узварушыў сэрца Бядулі сумны канец "Страцім – лебедзя".

***Ад усіх цяпер патомкі ёсць,***
***Ды няма адных – Страцімавых.***

Бядуля адчуў, што М. Багдановіч інакш пісаць не мог: "Ды без трагічнасці канцоўкі прапала б ігра колераў гэтага дасканалага твора, паблёкла б рамантычная героіка вобраза, пададзенага ў класічным стылі".

Калі разважаеш пра паэтаў, чыё зямное існаванне рана абарвалася, здзіўляешся таму, як ўсё ж многа яны паспелі сказаць сучаснікам і нашчадкам. А колькі б яшчэ маглі сказаць.

***Яўгенія ПІСКУН,***
***кандыдат педагагічных навук, кіраўнік навукова-даследчага гуртка "Страцім – лебедзь";***
***Аксана ТРАФІМЕЦ – сябар гуртка, студэнтка Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.***

# Дарогай Змітрака Бядулі

***Высылаю на адрас рэдакцыі вершы шарагоўца ТБМ Сорыка Алега Абрамавіча, габрэя, шчырага грамадзяніна РБ, які з дзяцінства "прыкаваны" да інваліднай каляскі, але не страціў аптымізму і надзеі ў светлую будучыню нашай Бацькаўшчыны, не адрокся ад мовы і ў сваіх вершах паказвае яе прыгажосць, мілагучнасць.***

***З павагай, ваш старшыня Чэрыкаўскай суполкі ТБМ М. Шчэрбіч.***

БЕЛАРУСЬ

Я павінен заўжды ганарыцца,
Што жыццё атрымаў на зямлі,
Дзе празрыстыя б'юцца крыніцы,
І да ранку не спяць салаўі.

А паглядзіш на рэчку з узгорку,
І захопіць ад радасці дух,
Калі з неба блакітная зорка
Упадзе нечакана на луг.

Беларусь – гэта ў лесе суніцы,
Сінявокія кветкі ільну,
Праца, святы, дажынкі, грамніцы,
І народ, што адолеў вайну.

Водар цёплага бохана хлеба,
Кубак з чыстай, крынічнай вадой,
Яшчэ песня – такая, як трэба,
Што з любой ваявала бядой.

Беларусь – ручнікі і абрусы –
Ты сяброўка для розных краін.
Беларусь – перш за ўсё беларусы,
І пра матчыну песню ўспамін...

* * *

Няўжо вясна мяне натхніла,
Каб зноў заўважыць погляд твой,
Усё, усё – узварушыла,
Што зараз лічыцца маной.

Мінулы час і смех жартоўны,
І шоўк распушчаных валос –
І пацалунак безумоўны,
І бездань сіняя нябёс.

Чаму мана на самай справе?
Не стужка ж даўняга кіно,
Калі з табой мы мелі права,
Каханне піць нібы віно.

Ды толькі штосьці не данеслі,
Сярод чароўных, дзіўных сноў.
Яны, здаецца, уваскрэслі,
І я іх бачу зноў і зноў.

Свой позірк шлю да небасхілу,
Дзіўлюся сонечнай гульнёй...
Няўжо вясна мяне натхніла,
І зноў заўважу позірк твой.

МЯНЕ НАДЗЕЯ НЕ ПАКІНЕ

Я веру, мова не загіне,
І не баюся гэтых слоў.
Як цяжка б не было ў краіне –
Яна адродзіцца ізноў.

Хачу запэўніць, я не першы,
Трымаю веру ў родны край –
Таму, што ёсць Купалы вершы.
Таму, што ёсць зялёны гай.

Той гай улетку з жаўрукамі,
І для натхнёнасці людзей –
Яны звяваюць тут вякамі,
Каб мы не страцілі надзей.

Каб не імкнуліся ў паходы –
З пустой кішэняй жабрака,
Каб мелі гонар назаўсёды,
І хай бяжыць часоў рака.

Бо не спыніць яе пачатку,
Пакуль у сэрцах свет не згас...
Яшчэ ў нас будзе ўсё ў парадку,
І прыйдзе, гэты лепшы час.

Мяне надзея не пакіне,
Краіна мае шмат сыноў,
Што вераць – мова не загіне –
Яна адродзіцца ізноў.

# Маладымі вачамі на рэчаіснасць

Колькі ўсяго прыгожага вакол нас, колькі неаб'ёмнага і неспазнанага! Але гэта ўжо не цікавіць, не прываблівае і не абуджае маладую душу. Колькі шчасця можна знайсці ў тым, што на першы погляд здаецца такім непрыкметным. Аднак людзі ўжо не заўважаюць гэтага. Яны зусім развучыліся кахаць, радавацца вясноваму сонейку, блакітнаму небу і жыццю.

Мне балюча прызнаваць гэта, але і я не выключэнне.

Калі я была маленькая, то ніколі не разважала над гэтым, мяне турбавалі зусім іншыя пытанні. Аднак зараз, калі пачынаеш заглядаць адным вокам ў будучыню, становіцца жахліва, бо грамадства дэградуе. Яно зусім заблыталася і памыляецца там, дзе проста недапушчальна памыляцца і неабходна цвярозая думка.

Паглядзіце на сучасную моладзь і параўнайце яе з той, якая была раней. Зусім іншыя паняцці, зусім іншы лад жыцця. Наркотыкі, алкаголь і тытунь – сучасныя правадыры моладзі.

Юнакоў і дзяўчат больш не вабіць асветніцкая дзейнасць, яны не зацікаўлены ў духоўным і культурным развіцці сваёй краіны. І да чаго ўсё гэта прывядзе? Да поўнага разарэння багатай беларускай спадчыны. Куды ні кінься, усюды цемра і жах. Што не кажы, ўсё роўна не пачуюць. Бо страцілі мы сваю самасвядомасць. Згубілі багацце беларускай мовы і захварэлі на "расію".

* * *

***Беларуская мова – родная!***
***Адпусцілі цябе мы, згубілі.***
***Адракліся, а потым забылі.***

***Дзе ж ты дзелася, родная мова,***
***Без цябе мы ніхто, мы прыблуды,***
***Без цябе мы ахайныя юды.***

***Дзе блукаеш ты, родная мова,***
***Кім жывеш ты, а можа змяніла***
***Свой народ, дарагія мясціны.***

***Не, не веру я гэтаму.***
***Мова, адгукніся, бо любім цябе!***

Але мы беларусы, і не трэба гэтага саромецца. Трэба гэтым ганарыцца. І каму сорамна размаўляць на беларускай мове, няхай лічаць сябе здраднікамі.

Я заклікаю ўсіх: "Абудзіцеся! Паглядзіце на жыццё з іншага, лепшага боку, і вы заўважыце, што яно самае дарагое, што даруецца чалавеку. І трэба яго правесці такім чынам, каб не захацелася нешта змяніць, калі б прадставіўся шанец, пачаць усё з нуля."

* * *

***Сонейка свеціць у вокны,***
***Елкі стаяць у цішы,***
***Не вабіць мяне гэта-***
***Балюча ў мяне на душы.***
***Я згубіла ўдзячнасць,***
***Я згубіла мову сваю,***
***Што рабіць, я не ведаю зараз,***
***Дзе шукаць зараз маці маю.***
***Гэты скарб толькі раз***
***нам даецца,***
***Назаўжды, назаўсёды, навек.***
***Захавай яго ў сэрцы, малеча,***
***Не згубі, як згубілі яны.***

***Хлапянюк Наталля.***

# ЦІ ХОПІЦЬ РАЗВАГІ?

Не дадзена ведаць нікому, калі
Ён зробіць апошні свой крок на зямлі,
У кожнага ёсць асабісты свой век,
Падоўжыць не можа яго чалавек.

Адняць, скараціць - падуладна яму
І робяць такое людзі таму,
Што ў п'яным загуле розум губляюць,
За крыўднае слова жыцця пазбаўляюць.

Сіротамі дзеці ў галечы растуць,
Па бацькавых сцежках крывавых ідуць.
Не ведаю я, колькі мне засталося,
Не ўсё аб чым марыў у жыцці збылося

Але не аб гэтым я сёння шкадую,
Баліць мне, што гвалцяць мову жывую.
Нічога адзін не магу я зрабіць,
А разам мы можам гвалт гэты спыніць.

Нам трэба любові, дабра эстафета,
Ці хопіць развагі, цярпення на гэта?
Калі не ўрадуем Радзіму, свой кут,
Дык нашы нашчадкі спазнаюць пакут.

Помніце, людзі, пра гэта заўжды,
Нам бараніць родны край ад бяды.

***Фелікс Шкірманкоў.***

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### ЕФРАСІННЯ
(паэма)

**Адпетая**

Рэха спяшалася ва ўсе бакі
Ад гэтакай справы.
Не разумелі цябе землякі,
Маладая Прадслава.

-Што ж гэта дзеецца сёння...
Якое зманіла заклянне
Любую нашу князёўну
Ад славы яе і багацця?!

Хіба яна для маленняў,
Дачка маладосці?
Вунь жаніхі – быццам пеўні
Над чыстай яе прыгажосцю.

Ва ўладаннях бясконцых
Ярылы, Вялеса,
Можа, дзяўчына,
не любіш ты сонца,
Зялёнага лесу?

Хіба не думала аб варажбе
І каханку?
Як жа так – не хвалюе цябе
І купальская наша гулянка?

Лійся у садзе ўначы, салавей,
І світальная квецень.
Толькі у шчасці, вяселлі вачэй –
Перамога над смерцю.

Сэрца камяк – ён у вольніцы
Радаснай спрытны.
Чым жа нам дапаможа бяссоніца
Вечнай малітвы?

Ах, да якога давёў
Кніжны розум цябе ачмурэння!
Юнае цела, дзяўчына, тваё –
Ў саване з чорных адценняў.

Як толькі вынесці тую тугу
Нашаму краю?
Не разумее і бацька дачку –
Горка рыдае:

- Нават і слабы сонечны пробліск
Келля зацісне.
Што ты, Прадславушка, робіш?
– Апамятайся, адступіся...

**Бунтарка**

Білі ў ёй да разладу,
Грымелі званы.
Не пажадала слабай,
Звычайнай Зямлі.

З намі, яшчэ не дарослымі,
Дробнымі ўсім,
Што яна перад нябёсамі?
Кропля ж зусім.

Досыць са сватамі –
Дайце аб іх забыццё.
Дзе ты, сапраўднае,
Вечнага Часу жыццё?

Ці не ў дыме
Да марнай прыйшлі мітусні?
Не, не аб тым гаварылі
Святыя –
Не трэба хлусні.

Перад спакусай атрутнай.
Пакутаю – што абярэм?
Ці, зданяю хуткай
Адбыўшы, -разлікі парвем?

Ды невялікага ж кошту
Пакінем пячаць.
Дзеля такой – дык навошта
Было й пачынаць?

Ці мы ўсе – што купцы
Са сквапнай дурной беднаты?
Толькі ў нашым Айцы
Ўсемагутным –
жывём сапраўды.

Ён уратуе адзін ад пустэчы
Ў слабых грудзях,
Наш спаконвечны
Пачатак і доўгі працяг.

Па-за мінучым дурманам
Нябесны настойлівы кліч.
Сэрцу святлом яго наканавана
Свет наталіць.

Чыстай адзінай малітвай
Паноў і рабоў
Праўду данесці вялікую –
Лад і любоў.

**Выбар**

Упартасцю чала
Заўжды нязменная,
Маўклівая расла
І задуменная.

З зялёнае пары –
Ды нелюдзімая.
Між кніг былі сябры
Яе адзіныя.

Не сціплых крых
Забавы нейкай лішняе –
Усё шукала ў іх
Сляды Ўсявышняга.

Знайшла сабе сям'ю
Нявеста светлая
І пра Зямлю
Пазнала запаветную.

Спынілася сцяжына
Ля сапраўднага.
Вышыняў дабрачынных
Сэрца прагнула.

Каб, як цяжарам ноша
Ні пярэчыла,
Служыць заўжды прыгожаму
І вечнаму.

Не гонар-асалоду
Славы княскае,
Абрала яна клопаты
Манаскія.

Сумлене перад чортам –
Парадзелае.
Адно адценняў чорных –
Справа белая.

У добрай сілы –
І даўгі бясконцыя.
Змагаюцца за хілых
Душы моцныя.

Ад свечак іх цяпло –
Жыцця праталіна.
Адзінае святло
Выратавальнае.

**Скарб**

Знялі сваё апантаныя вочы –
Далі зарок.
Пераступіла, урэшце, аднойчы,
Апошні парог.

Ціхая, ля абразоў
Засталася адна.
Як нарадзілася зноў –
Ефрасінняю стала яна.

Гэтак ад роздумаў смутных
Прыйшла да сябе.
Дзеля суседзяў аблудных
Гучалі малітвы яе.

Скончыла з ростаню.
Верыла: слугі й паны
Лепшымі стануць праз Госпада
Разам, адны.

Скарбу даверыў пуды
Манастырскі ёй цень.
Зноў манускрыптаў лісты
Захапілі яе да касцей.

Вось яны, волатаў справы,
Чароўны іх тлум.
Водар пергаменту, нават,
Круціў галаву.

Большага, пэўна, не ведала
Дзіва Зямля –
Слова свайго запаветнага
Нам на "пасля"

Вечнага розуму ўтойваў Полацк
Доўгі ручай.
Як жа значкоў дробных голас
Магутна гучаў!

Быццам наказам
Сплятался слоў даўніна.
Сувяззю часу
Была, самім часам яна.

Літары ўрадлівыя
Ля абраза...
Сталіся тыя шчаслівымі,
Хто напісаў.

**Масты**

І яе вось бясстрашна
Сюды, да стала прывяло.
Над сваім чыстым аркушам
Прагна занела пяро.

Ды знайшла з ёй прыстанак
Літарам белая гладзь.
Удалячынь за застаўкі
Стамлёныя вочы глядзяць.

Як хвалююцца грудзі!
А розум дык мрояй жыве –
Бога слухаюць людзі,
Чытаючы кнігі яе.

Не радкі, а масты –
Толькі цемры вакол далячынь.
Трэба слову-малітве дайсці
Да апошніх вышынь.

Новы свет быў нязвыклы,
Магутны, як сціснуты час.
Здабывалі за грошы вялікія,
Кніжыцы, вас.

Звала розумы слова, бы семя
Ў паветра з гразі.
І гарачым праменнем
Хадзіла наўсцяж па Русі.

Абмывала пяшчотна чало,
Быццам сонца сляза.
Ды як бы варажыла яно
Чытачу з абраза.

І цякла кніга ціхай ракой
У яго на вяку.
Яе мудры спакой
Спадабаўся майму земляку.



Ён
прымаў яе правілы,
Як уладу былых вешчуноў.
Тая ж самая вабіла
Чарадзейная сіла замоў.

**Настаўніца**

- Дзе ты ёсць, чалавек,
Голас блізкі і родны?
... Не хацелася век
Прамяніцца самотна.

- Не паслабіцца змрок
Па-над свечкаю ўвечар.
Што ён, слабы мой зрок
У сляпым гэтым свеце?

Разумееш, Дзвіна,
Нашых клопатаў мала.
Аднадумцаў яна
Неаслабна шукала.

Юны дух не слабеў,
І ў келлі бяздоннай.
Клікала так да сябе,
Так вучыла нястомна,

Што вядомай яна
Станавілася й смерду.
Гардзіслава, сястра
Тым жа рушыла следам.

Гэтак сама сям'ю
Аглушыла знянацку.
Толькі, хіба, ў пятлю
Заставалася бацьку.

Дзве сястры – два крыла.
Мар адзіная мова.
Вось жа – не аддала
Сумятні бесталковай.

І не сніўся спакой
Той жа прагай хрышчоным
Перапісчыцам з ёй –
Як настойлівым пчолам.

А бліжэй да мяжы
Свет хістаўся ад шалу.
Аб сумленай душы
Зорка ясная дбала.

- А што ісціна? Лад.
Жыць любоўю і мірам.
Вучняў так, птушанят
Боскім хлебам карміла.

Срэбрам крыўскай расы,
Клічам пешай званніцы.
Каб і самі раслі
Чыстай светлай пшаніцай.

Ды не бралі палаш.
Спагадалі халопам.
З тым бруіў у ёй наш
Крэўны крывіцкі клопат.

І тады сярод мар
Угледзеўся не ў замак –
У дзяцей сваіх твар
Беларускі світанак.

**Храм**

Дзіўнай маўчанкай сваёй
Кветкі бянтэжыў і лісце.
Над старажытнай ракой
Стромкаю свечкай свяціўся.

Люд пазбаўляла віны
Зачараванне святое –
Муляра прывід начны,
Ціхай манахіні мроя.

Нават суцішыў бедлам
Свет, ад няпраўды адталы.
Майстар пачуў Іаан –
Белая птушка ўзлятала.

Тленны жыццёвы цяжар
Не затрымаў вызвалення.
Скінула, ўрэшце, душа
Чорныя хмары адценняў.

Ды засталася ўсё ж...
(Дойлід стаміўся ад думак).
Там, у пачатку нябёс
Чысты пазнала прытулак.

Людзі нядобра жылі –
Хто ім пасвеціць здалёку?
Дык нездарма на зямлі
Кропляй застыла аблокаў.

Час твой вялікі, сястра,
Каб нагадаць пра святое.
Сонцу сапраўднаму храм
Мудра вучыў і спакою.

**Вочы**

Ведалі: люд не свяцеў.
Ды з непагаснай надзеяй
Твары ад Бога са сцен
Прама насустрач глядзелі.

Што перад тым мітусня,
Выбрыкі слабага цела?
І падбіралася ўся,
Думкамі Дзева мацнела.

Звала й калеку яна
Да хрысціянскае славы.
Божая Маці сама
Благаслаўляла на справу.

Ад абраза і ў сне
Чыстай натхнялася сілай.
Так багамазам – яе
Строгая постаць свяціла.

Не суцішае нам час
Доўгі прамень яе зроку.
Вочы вялізныя ў нас
Нешта пытаюць здалёку.

*(Працяг у наст. нумары.)*





# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*






**Шлях сям'і Швэдзюкоў па краінах свету**

Жыццё ў лагеры ішло сваім нармальным спосабам і было зусім зносным. Усе разумелі, што жыццё ў Афрыцы было часовае, і што скарэй ці пазней палучацца з сваімі роднымі, якія былі ў войску і пачнуць думаць, дзе і ў якой дзяржаве пасяліцца на сталае жыццё. Было тако ж ясным, ужо па вайне, што паварот не Бацькаўшчыну быў не мажлівы.

У 1943 годзе памірае



**Бабка Наталля. 1943 г. Танзанія.**



**Стаяць злева направа: сёстры Зося, Ева і Таня, сядзіць маці Мар'я. Тэнгэру, Танзанія. Кастрычнік 1945 г.**



**У кадэцкай школе. Рота ганаровай варты. Другі злева са сцяжком - Міхаіл Швэдзюк. Палястына. Верасень 1945 г.**

бабка Наталля. Пахавалі яе на могліцах у Тэнгэру.

У палове 40-ых гадоў мінулага стагоддзя сястра Ева выходзіць замуж за жаўнера з Паўдзённай Афрыкі. Потым яны пераехалі з Кеніі да Паўдзённай Афрыкі на пастаяннае жыццё. Ева памерла ў 1970 годзе.

Летам 1948 года ўжо толькі маці, сёстры Таццяна і Зося пакінулі Афрыку. Ў порце Мамбаса селі на карабель і цераз Індыйскі акіян, Чырвонае мора, Суэцкі канал, Сяродземнае мора і Атлантыцкі акіян прыплылі да Англіі, дзе ўжо былі бацька і я. І так, у канцы мы зноў сышліся.

### ЗНОЎ ПРА СЯБЕ

У красавіку месяцы 1942 года я ўступіў да польскіх аддзелаў "юнакаў". Нам далі ангельскую вайсковую вопратку і размясцілі ў лагеры каля Тэгерана.

Доўга мы там не былі. Была пастанова, каб вайсковая школы, г. зн. юнацкія школы, перевесці да Палястыны.

Грузавікамі павезлі нас да горада Казвіна дзе затрымаліся нанач. З Казвіна мы паехалі да Караманшаху, яшчэ ў Іране. У Караманшаху затрымаліся



**Міхаіл Швэдзюк. Пачатак красавіка 1942 г. Месяц пасля выезду з СССР. Тэгеран. Іран.**

некалькі дзён, каб потым цераз Багдад даехаць да лагера каля возера Габанія. Тут размясціліся на два тыдні.

У Габаніі страшэнная гарачыня, якую мы больш адчуваем пасля выезду з халоднай Архангельскай вобласці. Тут, у Габаніі, у гэтую пару года, вее сухі, гарачы вецер з пяском, які называюць "Хамсін". Вялікая смага. Цэлы час хочацца піць воду, якая не заўсёды была прысутная. Ад гарачыні мы часта купаемся ў возеры Габанія.

Пакідаем Ірак і цераз Транс'ярданію едзем да Палястыны. Тут тако ж цёпла, але няма той гарачыні, што была ў Габаніі. Да Палястыны прыехалі 24.V.1942 года.

У Палястыне завезлі нас да лагера пад назовам Башыт, які знаходзіцца недалёка ад гарадка Рэхавот.

Размясцілі ў намётах. Да лагера прывозяць больш і больш юнакоў ва ўзросце ад шасці да шаснаццаці гадоў. А колькасць хлапцоў даходзіла тады, на самым пачатку да некалькі соцень.

Тут зноў робяць перапісы, як гэта рабілі ў Тэгеране.

Але самай важнай справай было тут дазнацца ад хлопцаў, да якіх школ яны хадзілі да вайны і што закончылі, каб ведаць, да якіх школ пасляць іх вучыцца далей.

Тут пачалі арганізоўваць розныя школы, як: пачатковыя, механічныя, сувязная, авіяцыйная, кадэцкая, марская.

Я запісаўся, і мяне прынялі да кадэцкай школы 8.VIII.1942 года. Афіцыйны назоў школы быў "Junacka szkola kadetiou" г. зн. "Юнацкая школа кадэтаў". Гэтая школа давала поўную сярэднюю адукацыю, г. зн. чатыры гады ў гімназіі і два гады ў ліцэі. Акрамя гэтага, так як гэта была школа з вайсковым ухілам і рыхтавала кадры да службы ў войску, вяліся яшчэ і вайсковыя заняткі. Рэгулярна выкладалася вайсковая дысцыпліна, абарона, атака, вяліся муштры, парады, стрэльбы з вінтовак на стрэльбішчах, дзённыя і начныя патрулі і д. п.

Другі і трэці гімназіяльныя гады былі "скарочаныя". Повад быў наступны: дзеля таго што ўсе кадэты якія прыехалі з СССР, цераз два гады не хадзілі да польскіх школаў, дырэкцыя пастанавіла каб у 1943-1944 навучальным годзе ўсе гімназісты прайшлі двухгадовы курс навучання ў адным годзе, але з інтэнсіўна-на-



Dowództwo Szkół Junaków
GIMNAZJUM
Junacka Szkoła Kadetów
Nr. 1 Coy ... Batalion
Nr. 411/I.B. w M.p. Rok szkolny 1942/3.

ŚWIADECTWO GIMNAZJUM
OGÓLNOKSZTAŁCĄCEGO

Kadet Michał SZWEDZIUK
(Imię i nazwisko)
urodzony dnia 4. listopada roku 1927 w Potapowiczach pow. Pińsk
województwa poleskiego wyznania prawosławnego nar. białorusk.
klasy pierwszej „B" otrzymał — za — rok szkolny 1942/43.
oceny następujące:
sprawowanie bardzo dobry

**Частка атэстата за 1-шы клас гімназіі.**

пружанымі заняткамі і з скарочанымі канікуламі. Я тако ж у 1944-1945 навучальным годзе закончыў паспяхова IV клас і дастаў атэстат заканчэння гімназіі. Па польску гэта называецца – "малая матура" ("mala matura".)

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Давайце смяяцца па-беларуску

## ЯК З'ЯВІЎСЯ ПЕРШЫ ЗЛОДЗЕЙ
### (казка)

Па волі Божай, з першых дзён,
Як месяц стаў на неба,
Свайго цяпла, свайго святла
Яму было не трэба.
А ўсім астатнім, каго Бог
Стварыў па сваёй волі,
Хто працаваў і гэтым жыў,
Было свайго даволі.
Ішлі бясконцыя вякі,
Знікалі пакаленні,
Глядзеў на Месяц чалавек,
З'явіліся сумненні:
- Ён свеціць не сваім святлом,
Цяпла свайго не мае,
А як высока заляцеў,
І клопатаў не знае?
Як толькі ў думках ён сабе
Задаў пытанне гэта,
У яго з'явілася тады
Навязлівая мэта:
- Чаму ён можа, а я не
Чужым пакарыстацца?
І кары Божай с той пары
Не стаў ужо баяцца.

*Фелікс Шкірманкоў, Слаўгарад.*

## МІНІМАЛКА, МІНІМАЛКА...
### (фельетон)

Мінімальндая зарплата,
Ад цябе нямала зла.
І чаго ў жыцці ты варта.
Да чаго ты давяла?

Хто цябе прыдумаў палка
У нялёгкі гэты час?
Мінімалка, мінімалка,
Чым каштоўная для нас?

Хто прыдумаў гэты выраз,
І каму выгода ёсць?
Мо даход наш
значна вырас
І жыццёвы ўзровень рос?

Мінімалку падымаюць,
Дык не радасць, а бяда.
Ад таго што людзі маюць?
Грошы, быццам бы вада.

Мо бюджэтнікам паможа,
Хто на пенсіі – і ім ...
Дык не стане
болей збожжа
І тавараў нам усім.

А рабочым, інжынерам
І калгаснікам – чым лепш?
Абяцанкам часта верым,
А прежыць –
ледзь пражывеш.

Не паспеюць
крыху большай
Нам зарплаты налічыць,
Цэны – скок!
І меней грошай.
Кашалёк худы пішчыць.

Аб'яўлялі б мараторый
Хоць на месяцы на тры:
Хто што хоча,
тое творыць,
Цэны гоняць без пары
(Хто ж?
Вытворцы? Гандляры?)
Ды і што нам тыя грошы,
Хоць мільёны, хоць рублі!
Спажывецкі цягне кошык –
Дык старайся, зарабі!.

Сумяшчэннем
ці займайся:
Ці грузі, ці мо вартуй.
За заробак ты трымайся,
А інакш – мякіну жуй.

Нам не трэба абяцанкі,
Кошт мы ведаем грашам.
Адмяніце мінімалку,
Больш зарплаты
дайце нам.

Новыя шукайце формы –
Хто ва ўладзе, ў галаве.
Будзе ўперад рух,
рэформы –
Зажывём, як свет жыве.

*Мікола ВЯРШЫНІН.*

# Дзеля пробы

Участковы міліцыі лейтэнант Цыбульскі перастрэў калгаснага брыгадзіра, свайго сябра Квачэўскага:

- Мне патрэбен сведка.
- А на вошта?
- Самагонку шукаць будзем.
- О, дык я згодзен, зранку ні расінкі ў роце.

Зайшлі ў дом грамадзяніна Шпакоўскага. Цыбульскі павітаўся з гаспадаром і адразу за справу: так і так, ёсць звесткі, што вы займаецеся забароненым рамяством, маеце ўласны апарат і гоніце самагонку.

Шпакоўскі не разгубіўся:

- Вы што? Які апарат? Навошта мне самагонка. Я не ўжываю такой заразы. Спытайцеся ў Квачэўскага. Каб маю хату гром спаліў, каб мае ногі адваліліся, каб мне моль валасы паела, калі я хоць пляшку самагонкі выгнаў!...

Але Цыбульскага гэтым не праймеш, ён свае гне:

- Дык што, гаспадар, аддасі сам апарат ці шукаць будзем?
- Няма чаго шукаць. А што людзі пляткараць – не верце. Зайздросцяць, бо добра жыву.

Тым часам Цыбульскі выняў з тэчкі паперы і дзелавіта расклаў на стале.

- Так-так, кажаш, нічога няма?
- Ну, не зусім, - гаспадар прымегна захваляваўся. – Ёсць пляшка. Яшчэ нябожчыца цешча на націранне прыдбала, ды так і не паспела скарыстаць. Вось яна. Бярыце, калі ласка.

Цыбульскі ўзяў бутэльку, спрытна адкаркаваў, прынюхаўся, а праз момант каўтануў разы тры дзеля пробы.

- Ну і самагонка! Але, сапраўды, не твая. Напэўна, гэты выраб Настусін. А можа – Дусін. Надта ўжо ў горле дзярэ.

Квачэўскі залыпаў вачыма, крутануўся.

- Давай сюды. Я ў раз вызначу.

Цыбульскі не паспяшаўся аддаць і нарэшце пасвятлеў тварам:

- Гэта Мішы-пчаляра выраб!

Але Квачэўскі з такой здагадкай не пагадзіўся. Узяў бутэльку, некалькі разоў каўтануў і цвёрда, як брыгадзір, вызначыў: такой самагонкі ў яго брыгадзе не гоняць.

- Значыць, напішам акт? – Цыбульскі зноў, але на гэты раз наўпэўнена, памкнуўся да папераў.
- Дык што тут пісаць? – пасміхнуўся Квачэўскі, - Бутэлька ж парожняя. Тады так і трэба напісаць: знайшлі парожнюю бутэльку.

*Іван Жытко.*

## Пра скрыню з бульбянымі лупінамі

Давялося аднойчы наведаць мне невялікую вёску, якая знаходзіцца амаль што на ўскрайку нашага раёна. Хутка знайшоў патрэбную мне сядзібу, дзе ўжо шмат гадоў жыла адзінока сталая жанчына. Апынуўшыся ў хаце і павітаўшыся, я адразу звярнуў увагу, што ў памяшканні прыемна чыста і па сялянску ўсё добра дагледжана. Гаспадыня была яшчэ бадзёрая і гаварлівая кабета, якая клапацілася каля печы і ахвотна распавядала пра сваё жыццё. На печы, на лаўцы і на падлозе знаходзіўся разнастайны гаспадарчы скарб, чугункі, вёдры, кадушкі і шмат іншай маёмасці, без якой немагчыма абыйсціся на вёсцы.

Сярод гэтага багацця я міжвольна звярнуў увагу на бляшаную скрынку, ёмістасцю прыкладна на 6-8 літраў. На дыяганалі скрынкі быў надпіс "Икра чёрная" і далей меншымі літарамі паведамлялася, што гэта вельмі смачны і высокаякасны рыбапрадукт.

Атрымаўшы адказы на патрэбныя мне пытанні, напрыканцы нашай размовы я запытаў пра скрынку з высокаякасным рыбапрадуктам, паралельна ў думках падлічваючы магчымы кошт такога пачастунку. Тое, што я потым пачуў, мяне не проста збянтэжыла, я атрымаў самы моцны прыліў пачуццяў, дзе аднachасова змяшаліся смех, крыўда і, магчыма, гонар за беларусаў. На мой погляд, ні заходні багацей, ні сучасны "новы рускі", нічога падобнага ніколі не здолелі б зрабіць.

А пачуў я вось што. Старэйшы сын гаспадыні ўжо шмат гадоў жыве ў горадзе Мурманску і працуе на флоце. Сваю матулю не забывае і, калі наведвае вёску, заўсёды прывозіць пачастункі. Апошні раз сярод гэтых пачастункаў была і гэтая бляшаная скрыня. Госць хутка паехаў і жанчына вырашыла пачаставацца невядомай ёй раней ежай. Нічога смачнага ў гэтай ежы яна не знайшла, бо ікра была "празмерна салёнай". Але каб не прападала дабро, кемлівая гаспадыня падмешвала па тры-чатыры лыжкі гэтай ікры ў пойла свайму парсючку. Далей жанчына расказвала: "Вяпрук адразу стаў ахвотней есці і хутка прыбаўляў у вазе. Нажаль дабаўка хутка скончылася, і зараз у скрыні знаходзяцца бульбяныя лупіны".

Пачуўшы гэтае апавяданне, я не стаў тлумачыць суразмоўцы пра сапраўдны кошт "саленаватай дабаўкі", бо пабаяўся разчараўваць гэтага добрага чалавека. Развітаўшыся, я пайшоў з хаты. У галаве лунала толькі адна думка: "Чаго ў гэтым выпадку болей, камічнага або трагічнага? Божухна, няўжо беларусам нічога іншага не дадзена."

*А. Грудзіна, г. Шклоў.*

# Крыжаванка "Адновім мову"
## Перакласці на беларускую мову
*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 1. Состав. 5. Киоск. 8. Богатырь. 10. Слякоть. 11. Внимание. 12. Сапог. 13. Рок. 14. Белый гриб. 18. Вещество. 19. Жаба. 20. Обойма (вайск.). 21. Через. 23. Вдоль (недалёка ад чаго-небудзь). 25. Почти, около. 27. Решётка. 29. Совет. 30. Столб. 31. Натощак. 34. Охрана. 36. Тоска. 38. Власть. 39. Пыль. 40. На потом. 41. Беседка. 42. Сел (дзеяслоў).

**Па вертыкалях:** 1. Тумба. 2. Ломтик (хлеба, сала, кавуна). 3. Проволока. 4. Класс. 5. Скворец. 6. Плакса (жанчына). 7. Пачка. 8. Вес. 9. Жиры. 14. Лохани (для мыцця бялізны). 15. Советнику. 16. Результат. 17. Магазин. 21. Зонт. 22. Кувшин. 23. Морда. 24. Спичка. 26. Желаю. 28. Эхо. 32.Торф. 33. Алоэ. 34. Оттаял. 35. Начальник города. 37. Карта (геаграф.) 39. Барыня.

(Адказы можна праверыць на ст. 9.)

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 12. 2003 г. Замова № 2781.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3100 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
Кошт у розніцу: 240 руб. (у Менску - 250 руб.)